# Бацькаўшчына



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана:** **Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND„

№ 13 (449) — Каталіцкі Вялікдзень 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# За трыумф хрысьціянства

Сяньня нашы суродзічы-каталікі абходзяць найвялікшае сьвята хрысьціянства — Вялікі Дзень Уваскросу Хрыстовага. Сьвята гэтае заўсёды супаўняе глыбокай радасьцяй душы рэлігійных людзей, але аддаўна ўжо яно набыло для ўсіх нашых суродзічаў і глыбокага, чыста нацыянальнага сэнсу, пераносячы іхныя думкі й надзеі да так палка жаданага ўсімі ўваскрошаньня таксама ўкрыжаванае, бясконца дарагое нашае Бацькаўшчыны. І нарэшце цяпер, у сучасным мамэньце сусьветнага палажэньня, гэтае вялікае сьвята паварочваецца й трэйцяй сваёй стараной, пры тым ня толькі для нас, а й для цэлага сьвету. Бо ў тым падзеле гэтага сьвету на два сьмяротна варожыя сабе лягеры, хрысьціянства сталася адзіным найвышэйшым штандарам аднаго з гэтых лягераў, тымчасам як другі лягер ад пачатку выступае пад супраціўным сьцягам няпрыкрыта-антыхрысьціянскага чалавеканенавідніцтва й чалавеказабойчага дэструкцыйнага камунізму.

Так, хрысьціянства сяньня — ня толькі рэлігійная сыстэма для сваіх вернікаў. Сяньня ягоны глыбокі ідэйны й маральны зьмест для ўсіх, што толькі могуць і хочуць думаць, выкрывае сваю найглыбейшую, падвалінную аснавапаложнасьць для ўсяе тае перадавое грамадзка-палітычнае сыстэмы, якая найчасьцей і папулярна завецца дэмакратыяй. Адзін з выдатных гаспадарстваўскіх дзеячоў Ангельшчыны, гэтага краю клясычнае дэмакратыі, лейбарысты (сацыялісты) Стафард Крыпс мо найлепш выказаў гэта ў сваіх словах на колішняй сусьветнай канфэрэнцыі эвангелістых у Лёндане. Ён сказаў: «Дэмакратыя такая, як мы яе разумеем, гэта хрысьціянская форма ўрадаваньня, бо адзіна яна можа захаваць духовую свабоду адзінкі. Бо-ж істота хрысьціянства ў тым, што кажны чалавек павінен быць уважаны за дзіцё Божае, а не за машыну ў руках гаспадарства. Мы стаём сяньня перад абліччам небясьпекі выміраньня дэмакратыі, бо не ўдаецца нам удыхнуць у яе душу, безь якое яна жыць ня можа. **А душа дэмакратыі — гэта хрысьціянства...** Дэмакратыя можа абаперціся адзіна на самадысцыпліне грамадзяніна, як на аснове. Яна мусіць лічыць на дабраахвотнае захаваньне грамадзянамі ўзаемных забавязаньняў, гэта значыць мець асноўнае **хрысьціянскае настаўленьне».**

Запраўды, гэтае хрысьціянскае настаўленьне, хрысьціянізацыя ня толькі грамадзка-палітычнае формы — дэмакратыі, але й самога зьместу, цэлага жыцьця наагул, удыхненьне гэтае хрысьціянскае душы ў зьнядужэлае й зморанае цела чалавецтва — адзіны ратунак сьвету будаваньня й творства ў ягоным змаганьні з навалай духовае дэструкцыі. Кажны народ, што хоча заняць пачэснае месца ў гэтым сьвеце, мусіць добра ўсьведаміць сабе гэта. І мы можам быць толькі шчасьлівымі ды гордымі, што для народу нашага гэтае ўсьведамленьне ня можа станавіць ніякае цяжкасьці. Бо хрысьціянскасьць нашага народу ў ягоных шырокіх і глыбокіх асновах — бесьпярэчная і навет, можна сказаць адвечная. Бо навет і на зары свае гісторыі, будучы яшчэ ў сваіх абрадах паганскім, народ гэты ў сваім асноўным жыцьцёвым настаўленьні, у сваёй маралі ня можа быць кваліфікаваны йначай, як народ духова хрысьціянскага сьвету. Усё, што толькі захавалася ад тае далёкае пары, ня толькі не пярэчыць, а яскрава сьветчыць аб гэтым.

І сяньня, калі сусьветнае хрысьціянства стаіць у сваім апошнім баі з антыхрысьціянскім і папраўдзе антыхрыставым бальшавізмам — нашаму народу таксама няма іншага месца ў гэтым баі, як у стане Хрыста. Мы ўсе добра ведаем гэта. І таму з радасьцяй і надзеяй гукаем сяньня:



— Хрыстос Уваскрос!

Уваскрос Хрыстос — І спас чалавецтва, і не загіне, і з абумерця свайго ўваскросьне змучанае сяньняшняе чалавецтва, зьвярнутае да ідэі хрысьціянства.

Уваскрос Хрыстос — і ў новым уваскрослым чалавецтве — у вялікай сям'і дзяцей Хрыстовых — не застанецца-ж на крыжы й адна з найбольш пакорлівых, у глыбі найвярнейшых дачок Ягоных, вялікая пакутніца — Бацькаўшчына наша Беларусь.

За трыумф хрысьціянства на сьвеце — гэткі шлях сяньня народам і чалавецтву. Бо —

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

***Усіх Беларусаў Каталікоў***
***вітаем зь вялікім сьвятам***
***УВАСКРОШАНЬНЯ ХРЫСТА!***
***Хрыстос Уваскрос***
***Уваскросьне й Беларусь!***

## Хрыстос Уваскрос

### Навекі

**Штандар цярпеньня ўзьняў ты**
**[над жыцьцём**
**і кане ў змрок нячыстага спакуса...**
**І ў сэрцы, і ў душы — зь імём**
**Ісуса.**

**Зьдзяйсьняецца і сьвеціць**
**[прыйсьце кроз,**
**падбітым пошугам даруе лекі.**
**Ён уваскрос! Ён уваскрос**
**навекі!**

**Наругу зла ты зьнёс. Ці аднаго**
**яна гняла, падкошвала заўчасна...**
**І сьвеціць зьніч імя Яго**
**нязгасна.**

**Няхай на тле зьнішчэньняў,**
**[па вуглях**
**ізноў цябе ў рабы цікуе змуса, —**
**Ты не пакінеш зорны шлях**
**Ісуса.**

**І вер: ні змора і ні шал пагроз**
**жыцьця ня ўнімуць — лёд страсаюць**
**[рэкі.**
**Ён уваскрос! Ён уваскрос**
**навекі!**

АЛЕСЬ САЛАВЕЙ

## Хрыстос Уваскрос! Запраўды Уваскрос!

**Раніца заўсёды была сьветлая й пагодная. Пасьля кароткай, папераджальнай ілюмінацыі зары, сонца залатой паводкай хлынула на ўзгоркі, бары й даліны. Спад мяжы серабранай ракетай страляў жаўрук і рассыпаўся ў блакіце пэрламі тонаў. Зь вежаў сьвятыняў загулі званы — радасна, трыумфальна, пераможна. Твары людзей зьзялі няштодзённай радасьцяй. Людзі цалаваліся й паўтаралі шчасьлівую вестку:**

**«Хрыстос уваскрос! Запраўды ўваскрос!»**

**Так калісь у гэты сьветлы вялікі Дзень радасная мэлёдыя званоў і песьняў лунала над нашай ветлай Беларусяй. Сьвята трыумфу й перамогі дабра над злом, сьвятла над цемрай, вясны над зімой.**

**Сяньня жахлівы сум ахутвае наш край. Сяньня над ім не залунае радасная мэлёдыя званоў і песьняў. Злачынныя шаманы цемрацтва, захопнікі-чужакі й іхныя лёкаі лютуюць на Беларусі. Яны зрабавалі нашае шчасьце, свабоду, званы й песьні, зьнішчылі й апаганілі нашыя сьвятыні, зьдзекліва акалечылі нашую мову,ператвараючы яе ў нейкага гібрыда, жаргон і імкнуцца калечыць нашы душы, а, прынамся душы нашых дзяцей. Замест жывой веры яны накідаюць бяздушную псэўда-навуковую дактрыну, на месцы Крыжа — сымбаля збаўленьня, дабра й ахвяры ставяць бронзавых ідалаў — помнікі злачынных, крывавых сатрапаў — марксаў, ленінаў, сталінаў і крывавыя палотнішчы.**

**Рачаіснасьць сумная, амаль безнадзейная. Ад каго-ж спадзявацца ратунку, скуль узяць сілы й гарт, каб не заламацца, каб вытрываць і перапрываць?**

**І вось-жа слаўнае й цудоўнае Ўваскрошаньне Хрыстова павінна нам быць натхненьнем, надзеяй і зарукай, што дабро пераможа злыбяду, праўда — ілжу, сьвятло — цемру, свабода — няволю.**

**Прыклад Уваскрошаньня Хрыста дае нам веру і ўпэўненасьць, што і ў нашай краіне скончыцца лютая зіма панаваньня чужацкіх цемрашалаў, што ўваскросьне й Беларусь. Тады беларускі народ адбудуе сьвятыні, бронзавыя помнікі сатрапаў-панявольнікаў пераліе на званы й ізноў сонца, жаўрук, званы й людзі трыумфальна абвесьцяць:**

**Хрыстос уваскрос! Уваскросла Беларусь! Запраўды ўваскросьлі!..**

# Хрушчоў і Насэр

Казкі «Тысячы й аднэй ночы» захапляюць нас усіх нечаканасьцяй сваіх разьвязак. Адна з казак Шэхэразады адыгрываецца цяпер ў галіне савецка-арабскіх дачыненьняў.

27-га сьнежня мінулага году ў Каіры, у палацы Кубба, было падпісанае пагадненьне аб эканамічнай і тэхнічнай дапамозе Аб'еднанай Арабскай Рэспубліцы з боку Савецкага Саюзу ў будаўніцтве першае чаргі высотнай Асуанскай запруды. Каірскія газэты тады пісалі, што эканамічная й тэхнічная дапамога, даваная Савецкім Саюзам, не зьмяшчае ў сабе ніякіх палітычных ці іншых умоваў, чым яна выгадна адрозьніваецца ад амэрыканскай дапамогі...

Акт падпісаньня пагадненьня быў як быццам афіцыйным жаніцьбам паміж двума, вельмі непадобнымі адзін на аднаго партнэрамі — камунізмам і арабскім нацыяналізмам. Фактычна, агульнае паміж гэтымі партнэрамі было толькі адно — нянавісьць у дачыненьні да заходніх дзяржаваў, і да таго, што й Арабы й камуністыя завуць «імпэрыялізмам». Але агульная нянавісьць — лучнік нятрывалы.

І вось цяпер прайшла ня тысяча й адна, а толькі 81 ноч, і жаніцьбы паміж арабскімі нацыяналістымі, у васобе прэзыдэнта Насэра, і камуністымі, у васобе Хрушчова, ужо пачынае трашчэць па ўсіх швах.

Пасьля антыкамуністычных прамоваў, зь якімі выступаў Насэр на працягу апошняга тыдня, 16-га сакавіка увечары на гэтыя прамовы адказаў Хрушчоў. Ён сказаў, што яму «зусім незразумела», чаму зьмянілася дачыненьне Насэра да іракскай рэвалюцыі, што Насэр «памыляецца ў справе аб'еднаньня Іракскай рэспублікі з Аб'еднанай Арабскай Рэспублікай», што ён, Хрушчоў, «засмучаны» апошнімі выступленьнямі Насэра ў Дамаску, што Насэр «узяў у выглядзе ўзбраеньня мову імпэрыялістых», што антыкамуністычная палітыка Насэра «няўхільна праваліцца» і гэтак далей.

Насэр адказаў на гэтую прамову Хрушчова ў той-жа вечар. У сваю чаргу, ён заявіў, што «абарона Хрушчовам камуністых у Аб'еднанай Арабскай Рэспубліцы» няпрыймальная для арабскага народу, што гэтая абарона «пагражае адзінству народу рэспублікі», што «змаганьне супраць камуністычных агентаў мае за мэту абарону краіны супраць новага імпэрыялізму».

Хрушчоў сказаў сваю антынасэраўскую прамову на крамлёўскім прыняцьці на гонар урадавай дэлегацыі Іракскай рэспублікі. І гэта не выпадкова. Канфлікт паміж Насэрам і Хрушчовам разгарэўся якраз з прычыны Іраку, дакладней — з прычыны здушэньня паўстаньня палкоўніка Шавафа ў паўночнай частцы Іраку. Драматычныя падзеі апошніх дзён у Іраку паказалі ўсім палітыкам, што спроба аб'яднаць у вадно рэчышча два патокі, што імкнуцца ў супрацьлежныя бакі — камунізм і арабскі нацыяналізм — ня можа ня скончыцца канфліктам. Так ці йнакш пераважыць адзін з гэтых патокаў — коштам другога.

Да разьвязкі яшчэ далёка. Але цяпер, як быццам у першай частцы аднэй з казак «Тысячы й аднэй ночы», стварылася нязвычайнае палажэньне. У цікавым палажэньні апынуліся ўсе тры дзеючыя асобы: Насэр, які парваў з заходнімі дзяржавамі й прыняў значную эканамічную дапамогу ад Савецкага Саюзу, рызыкуе страціць і гэтую дапамогу й застацца пры разьбітым карыце непабудаванай Асуанскай запруды. Касэму пагражае поўная ўнутрыпалітычная ізаляцыя й зданьне на ласку іракскіх камуністых, гэта значыць канец ягонае кар'еры. Але й Хрушчоў апынаецца ў цяжкім палажэньні. Уся ягоная палітыка ў дачыненьні да эканамічна адсталых краінаў Афрыкі й Азіі базавалася дасюль на спробе пераканаць народы гэтых краінаў, быццам Савецкі Саюз — іхны бескарысьлівы сябра, быццам савецкае кіраўніцтва зацікаўленае толькі ў дапамозе гэтым народам супраць гэтак званых «імпэрыялістых». Дачыненьні з Аб'еднанай Арабскай Рэспублікай былі краевугольным каменем усяе палітыкі савецкага кіраўніцтва ў Азіі й Афрыцы. Калі ў мэтах запалоханьня Насэра савецкі ўрад наважыцца цяпер спыніць сваю дапамогу Аб'еднанай Арабскай Рэс-

**(Заканчэньне на 2-й бач.)**

# Натхненьне пад прымусам

«Пастановы XXI-га зьезду КПСС натхняюць савецкую моладзь!» — так называлася перадавіца «Праўды» 11-га сакавіка. У другім ейным абзацы — у вытрымцы рэзалюцыі зьезду — мы чытаем: «Камсамольцы пакліканыя і ў далейшым паказваць моладзі ўзоры самаадданай працы».

I вось тут узьнікае простае, але лягічнае пытаньне: у імя чаго й чаму? Ужо дзесяткі год мы чуем падобныя выказваньні бальшавіцкай прапаганды, ужо дзесяткі год падсавецкае грамадзтва пад уплывам заклікаў, шантажу й прымусу стаіць на розных сацыялістычных, стаханаўскіх, мамаеўскіх і іншых савецкіх вахтах. Той, хто маючы 17 год стаў у першыя гады савецкай улады на гэтыя вахты, сяньня мае 50 год. Такім чынам усе найлепшыя гады падсавецкага маладога чалавека прайшлі на гэтых штурмавых вахтах. А што ён меў за гэта? Напоўгалоднае жыцьцё, недахоп вопраткі, лёзунгі, заклікі й абяцаньні...

На XXI-м зьезьдзе КПСС Хрушчоў доўга, мутна й блытана гаварыў аб пабудове камунізму. Але навет паводля выказваньняў Хрушчова, невядома калі гэты камунізм будзе пабудаваны, а — найгоршае — невядома, як ён будзе выглядаць.

Як ведаем з савецкай прэсы, толькі ў Беларусі заплывае балотам і зарастае хмызьнякамі 200 тысяч гэктараў добрай зямлі. Але Хрушчоў гоніць беларускую моладзь у Казахстан асвойваць цаліну. I вось як выглядае жыцьцё гэтых сотняў тысяч юнакоў і дзяўчат на цаліне. Цытуем паводля «Комсомольской Правды» 7-га сакавіка: «Пасяліліся ў халодным доме на голай падлозе, падаслаўшы зьмяшаную із сьнегам салому. У сталоўцы — адна лыжка на дзесяцёх...»

Гэта было ў першыя гады асваеньня цаліны, а вось што маем цяпер: «Трэйці раз прабавалі ўчора трактарыстыя прабіцца празь сьнег, каб давесьці нарэшце прадукты. Ізноў не ўдалося прывезьці дроў і вугалю, таму ў кватэрах холадна. Хоцькі ня хоцькі зачыняй пякарню й сталоўку».

А вось умовы працы, паводля прыгаданай газэты:

Трактарыстка — а перад прыездам на цаліну інтэлігентка — угразла ў лімане. Цытуем: «Выйшла Маша з угразлага трактара ледзь не папаясьціцу ў гразь. Ледзь потым расчапіла бароны й пачала кажную паасобку выцягваць зь ліману. Бароны цяжкія, падняць ня так лёгка. Цягне яна гэтыя бароны й плача, проста заліваецца сьлязьмі...» Гэта былі толькі людзкія сьлёзы й гора беднай, загнанай на непасільную працу дзяўчыны. У гэтым — цяжкое злачынства нялюдзкай бальшавіцкай улады й сыстэмы.

10-га сакавіка «Комсомольская Правда» ў справаздачы з пленуму ЦК КПСС Беларусі пісала: «У прынятай пленумам пастанове вызначаныя высокія забаўляньні моладзі Беларусі ў выкананьні заданьняў сямігадовага пляну...»

Ніхто не патурбаваўся папытацца ў беларускай моладзі, ці гэтыя заданьні яна можа выканаць. Заданьні вызначылі партыйныя верхаводы. Ды хай-жа яны абліжна ня йлгуць, што «пастановы XXI-га зьезду натхняюць савецкую моладзь».

Не натхняюць, а прымушаюць...

пс

# I зьезд журналістых БССР

Саюз журналістых БССР быў створаны нядаўна, толькі паўтара году таму. Да яго належыць 800 журналістых БССР, якія працуюць у рэспубліканскіх, абласных, раённых і шматтыражных газэтах і часапісах, у радыё й тэлевізіі, у Беларускім тэлеграфным агенцтве й выдавецтвах.

Сёлета, 5-га сакавіка, у Менску адбыўся I зьезд гэтае арганізацыі.

У праграме зьезду быў даклад старшыні арганізацыйнага бюро Саюзу журналістых БССР М. Філімонава «Аб заданьнях журналістых рэспублікі ў барацьбе за выкананьне пастановаў XXI зьезду КПСС», а таксама даклад сябры арганізацыйнага бюро А. Барашкі «Аб выніках абмеркаваньня праекту статуту Саюзу журналістых СССР на абласных канфэрэнцыях і прапановах што да праекту статуту».

Старшыня Саюзу ў сваім дакладзе, гаворачы аб заданьнях журналістых падчыркваў, што яны заключаюцца перадусім у тым, «каб усё вышэй і вышэй узьнімаць палітычную й працоўную актыўнасьць народу, запальваць сэрцы працоўных пафасам камуністычнага будаўніцтва...» і г. д. і г. д.

Не абышлося, як і на папярэдніх зьездах КП Беларусі й Саюзу пісьменьнікаў БССР, без перасьцярогаў перад небясьпекай гэтак званае буржуазнае ідэялёгіі. «Асаблівая ўвага, — гаварыў дакладчык, — павінна быць накіравана на пераадоленьне перажыткаў капіталізму ў сьвядомасьці людзей (і гэта ў пятым дзесяцігодзьдзі савецкае ўлады! — А. Г.), разгортваньне няпрымірымай барацьбы з варожай буржуазнай ідэялёгіяй».

Дакладчык успамінаў і аб некаторых недахопах у працы беларускіх савецкіх журналістых. Але аб гэтых недахопах куды больш было сказана ўжо пасьля ўдыскусіях над дакладам. Тут, прыкладам, падчырквалася недастатковая падрыхтоўка журналістычных кадраў у БССР, адсутнасьць кваліфікаваных журналістых у абласных і раённых газэтах ды слабая дапамога гэтым газэтам з боку цэнтру; гаварылася аб тым, што раённыя газэты вельмі шэрыя, нудныя, аднастайныя, у іх няма «захапляючага паказу савецкіх людзей — будаўнікоў камунізму». Як быццам-бы ад гэтых «будаўнікоў камунізму» раённыя газэты павесялелі-б... Ды зрэшты, як такія газэты, і то ня толькі раённыя, але таксама абласныя й рэспубліканскія, могуць ня быць шэрымі, нуднымі й аднастайнымі, калі, як гаварыў адзін з прамоўцаў, у іх «галоўная ўвага павінна быць накіравана на вырашэньне задач павышэньня ўраджайнасьці й павялічэньня вытворчасьці прадуктаў жывёлагадоўлі...»?!

Пасьля дакладаў і дыскусіяў зьезд выбраў праўленьне Саюзу журналістых БССР і рэвізійную камісію, а таксама дэлегацыю на першы Усесаюзны зьезд журналістых СССР.

А. Г.

# Беларусы на Унівэрсытэцкім фэстывалі ў Лёндане

На 3-ім Міжнародным Фэстывалі, зарганізаваным Студэнцкім Саюзам Лёнданскага Унівэрсытэту, які адбыўся ад 18 да 21-га лютага сёлета, першы раз была рэпрэзэнтаваная Беларусь. Беларусы заўдзячваюць гэта ў вялікай ступені высілкам і арганізацыйным здольнасьцям спадарыні Веры Рыч — ангельскае студэнткі матэматыкі (і ўжо ведамай паэткі — Рэд.), якая сама называе сябе «Беларускай праз адаптацыю». Яна падрыхтоўвала ўдзел Беларусаў у гэтым фэстывалю із згодай і супрацоўніцтвам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі.




Фрагмэнт беларускага стэнду

Фэстываль, які быў зарганізаваны Выканаўчым Камітэтам Студэнцкага Саюзу, ставіў сабе за мэту лепшае ўзаемаразуменьне паміж студэнтамі розных нацыянальнасьцяў. На Лёнданскім Унівэрсытэце вучыцца каля 6 тысяч гэтак званых «заморскіх» студэнтаў (слова «чужынцы» ня ўжываецца ніколі), а таксама вялікая колькасьць студэнтаў чужынецкіх калёніяў, якія жывуць у Вялікабрытаніі — пераважна Палякаў, Італьянцаў і Цыпрыйцаў. Лёнданскі ўнівэрсытэт дае нагоду студэнтам усіх нацыянальнасьцяў сустракацца й пазнаёміць адзін аднаго із сваім гледзішчам.

Фэстываль быў падзелены на тры часткі — выстаўка, канцэрт, і сэрыя фільмаў ды дыскусійных групаў. Беларускі стэнд на выстаўцы быў адным із самых выдатных. Агулам, у Фэстывалі былі рэпрэзэнтаваныя 27 нацыянальнасьцяў, а таксама такія міжнародныя арганізацыі як Унівэрсытэцкая Служба і Студэнцкае Аб'еднаньне Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

Беларускі стэнд быў падзелены на дзьве сэкцыі: «Беларусь дома» (гэта значыць, падсавецкая Беларусь) і «Беларусь на выгнаньні». Гэтыя сэкцыі былі ілюстраваныя дзьвюма табліцамі фатаздымкаў. У цэнтры пад беларускім нацыянальным гэрбам «Пагоня» і бел-чырвона-белым сьцягам, знаходзілася табліца з кароткім апісаньнем Беларусі й перакладам вершу Янкі Купалы «Брату на чужыне» (перакладзены прыгаданай намі паэткай Рыч — Рэд.). На выстаўцы былі паказаныя таксама экспанаты беларускага ткацтва і вырабаў з дрэва, пазычаных сябрамі Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Быў таксама паказаны выбар кнігаў і часапісаў — як савецкіх, так і эміграцыйных выданьняў.

Адчыняючы выстаўку, бургомістр Гольборну — у гэтай частцы Лёндану знаходзіцца будынак лёнданскага Саюзу Студэнтаў — Сыдней Джакс, гаварыў аб Лёнданскім ўнівэрсытэце, як аб «Задзіночаных Нацыях у мініятуры» і падкрэсьліў, што патрэба добрай волі й супрацоўніцтва, якая цяпер існуе паміж студэнтамі, існуе й пасьля таго, як гэтыя студэнты скончаць унівэрсытэт. Пасьля ўрачыстасьці адкрыцьця, бургомістр пазнаёміўся з выстаўкай. Ён вельмі зацікавіўся беларускім стэндам і папрасіў больш інфармацыяў аб Беларусі. У вадказ на гэта яму была падараваная кніга «Дзень незалежнасьці Беларусі». Бургомістр сказаў, што ён вельмі зацікаўлены тым, каб беларускае культурнае жыцьцё квітнела й на чужыне.

Адным з кульмінацыйных пунктаў выстаўкі была сыбота па паўдні. Скончыўся паказ апошняга фільму; бальшыня студэнтаў ужо пабачыла выстаўку й блукала вакол, ня ведаючы, што рабіць далей. Тады з галоснікаў пачулася паведамленьне: «пры беларускім стэндзе раздаецца традыцыйнае беларускае печыва». На працягу гадзіны беларускі стэнд быў акружаны вялікім натоўпам, што частаваўся беларускімі сырнікамі, печывам з макам і іншымі смачнымі рэчамі. Шмат хто із студэнтаў, што атрымаў сваю порцыю, заставаўся пры стэндзе й дапамагаў разьмяркоўваць печыва сярод іншых. «Чаму-ж вы не бралі ўдзелу ў Фэстывалі летась?» — пыталіся яны ў беларускіх удзельнікаў, — наступны год спадзяемся пабачыць вас ізноў!»

Фэстываль прайшоў. Гэта былі чатыры дні напружанай працы, але й адпачынку, і прыкладаў супрацоўніцтва, дзе адзіным аб'ектам спрэчак была вялічыня плошчы пад кажны стэнд. Што даў гэты фэстываль? Ён падтрымаў дух сяброўства й супрацоўніцтва паміж моладзяй самых розных расаў і нацыянальнасьцяў. У гэтай спрыяльнай атмасфэры, шмат студэнтаў мелі нагоду крыху бліжэй пазнаёміцца зь беларускім жыцьцём і культурай, яны адчулі беларускую гасьцiннасьць. I калі, з гледзішча арганізатараў фэстывалю, сяброўства зьяўляецца гэтулькі-ж важным, як і палітыка пры разьвязваньні сусьветных праблемаў, дык справа вольнай Беларусі здабыла ў лёнданскім унівэрсытэце вялікую падтрымку.

В. Р.

---

заўважа каторага, тут-жа ловіць, за руку ды сюды, у калгас, да на пасадку кладаўшчыка ці касіра...

Калгаснікі рагочуць.

Ну, а там рука руку мые...

**3-ці калгаснік** (пашаптаўшыся із Сенькам-Заікам): Ну што вы напалі на таварыша Гудзеева? Ці ён адзін тут вінаваты? Ну, канешне, бывалі й памылкі. Конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца. Але-ж... Вот возьмем Самасеева. Як рэкамандавалі, што гаварылі?

**Сенька-Заіка:** У-устойлівы і па-аваротлівы.

**3-ці калгаснік:** А што аказалася?

**Сенька-Заіка:** Што ўстойлівы — няпраўда. А што па-аваротлівы, дык як у сук уляпілі. Пава-аротлівы! Сонца яшчэ ня ўзышло, а ён ужо на нагах...

**3-ці калгаснік:** ... ледзь трымаецца.

Калгаснікі йзноў рагочуць.

**Гудзееў:** На гэты раз вы крыўдзіцца ня будзеце.

**Цярэшка:** Хто ён:

**Гудзееў:** Чалавек сур'ёзны...

**Цярэшка** (настойліва): Хто ён?!

**Кавальчук** (падбадзёрвае Цярэшку): Давай, давай, Церах! Сьмялей! Завязвай вузялок!

**Цярэшка** (падыходзячы да Гудзеева): Таварыш Гудзееў! От людзі сьмяюцца, а тут плакаць трэба! За чатыры гады вы ўжо чатырох ці пяцёх старшынь нам прывозілі і ўсіх хвалілі. А што потым аказалася?.. Даволі! Мы хочам ведаць: хто ён? Які ён гаспадар? Што ён за чалавек? Ці можна яму даверыць гаспадарку?

**Кавальчук:** Правільна! Хай людзі паглядзяць і памацаюць.

**Гудзееў:** А вы хто такі?

**Кавальчук:** Як хто? Тутэйшы.

**Цярэшка:** А чаму сакратар райкому ня прыехаў на сход? Ёнжа абяцаў сам прыехаць.

**Гудзееў:** Ён мне даручыў сход правесьці. А сам ня мог. Яго тэрмінова выклікалі.

**Кавальчук:** Таварышы! Відаць, таварыш прадстаўнік з раёну й сам ня ведае, каго вам рэкамэндуе, і ў вочы ніколі яго ня бачыў.

**Гудзееў** (Кавальчуку): Я-б вам параіў за зубамі язык патрымаць.

**Цярэшка:** Чалавек правільна гаворыць. Калгаснікі хочуць ведаць, каго вы нам прывезьлі.

**Гудзееў:** Добра, я вам скажу. (Дастае з партфэлю паперку, чытае.) Бюро райкому рэкамэндуе на пасаду старшыні «Вольная праца» Кавальчука Цімафея Ягоравіча. 1902 году нараджэньня, сябра партыі з 1928 году, паходжаньне — з рабочых, адукацыя — сярэдняя. Таварыш працаваў на адказнай пасадзе ў Менску. Цяпер дабраахвотна паехаў у калгас.

**Цярэшка** (зьдзіўлены): Кавальчук?

**Кавальчук:** Таварыш Гудзееў! Вы-ж, пэўна, бачылі яго?

**Гудзееў:** Бачыў.

**Кавальчук:** I гаварылі зь ім?

**Гудзееў:** Гаварыў.

**Кавальчук:** Цікава. Які-ж ён?

**Гудзееў** (ня ведае што сказаць): Ну які... Ну такі... Сур'ёзны, салідны... А, уласна кажучы, чаму гэта вас так цікавіць?

**Кавальчук:** Вельмі цікавіць. Я-ж вас упяршыню бачу. Давайце пазнаёмімся. Кавальчук Цімафей Ягоровіч — я і ёсьць.

Заслона.

### АКТ ДРУГІ

Сьвітае. Толькі што прапелі пеўні. Нязлосна, відаць, спрасонку, раз-другі гаўкнуў сабака. Недзе скрыпнулі вароты, рыкнула карова. Вось прайшла жанчына з поўнымі вёдрамі на каромысьле. На вуліцу выйшаў **Кавальчук**. Паказаўся **Раман** зь мяшком за плячыма.

**Раман:** Добрай раніцы. (Праходзіць міма.)

**Кавальчук:** Добрай раніцы. Адкуль так рана?

**Раман** (спыніўся): З гораду. Па хлеб езьдзіў, ды ўчора спазьніўся на вячэрні поезд. Прыйшлося на вакзале ўсю ноч праседзець.

**Кавальчук:** Вас брыгадзір папярэдзіў учора, што зь сяньняшняга дня на нарад трэба зьяўляцца ў сем гадзін раніцы?

**Раман:** Гаварыў.

**Кавальчук:** Не спазьняецеся. (Пайшоў.)

**Раман** хацеў нешта сказаць, але змоўк. Толькі намерыўся пайсьці, як насустрач **Аксіньня** зь вядром.

**Аксіньня** (павітаўшыся): Здароў! Няўжо толькі цяпер з гораду?

**Раман:** Учора спазьніўся на поезд.

**Аксіньня:** Усю ноч на вакзале гараваў? На маю долю ўзяў?

**Раман:** Дзьве буханькі ўзяў. Прыйдзеш? Ці самому прынесьці?

**Аксіньня:** Я сама прыйду. Ідзі ,можа, трохі падрэмлеш.

**Раман:** А можна было-б у вадной хаце хлеб гэты есьці.

**Аксіньня:** Пачакаем крыху. Як стане лепей у калгасе, тады.

А покуль што... Усё-такі на двух прысядзібных участках лягчэй жыць, як на адным...

Аксіньня набрала вады й пайшла. Пайшоў і Раман. Да калодзежа падыходзіць зь вядром **Юля**. Набірае ваду. На вуліцы паказалася **Маланка** з трыногаю ў руцэ. Падыходзіць да Юлі.

**Малака:** Юлька! Ну, Юлька, ведаеш што? Васіль, старшынёў сын, сьпёкся.

**Юля:** Як сьпёкся?

**Маланка:** Утрэскаўся ў цябе па вушы.

**Юля:** А ідзі ты...

**Маланка:** Чэснае слова. Праходу мне не дае.

**Юля:** Ну і што?

**Маланка:** Як што?

**Юля:** Падумаеш...

**Маланка:** Ты, Юлька, ня круці носам. Хлопец ён што трэба. I бадай што інжынер. Ты май на ўвазе.

**Юля:** Ай, перастань ты глупства малоць.

**Маланка:** Такі хлопец — глупства?

**Юля:** Ты мне другое скажы: як мне даведку ўзяць?

**Маланка:** А Самасееў хіба ня даў?

**(Далей будзе)**

# Айцец Робэрт вярнуўся ў Лювэн

Раніцаю, 5-га сакавіка, а. Робэрт прыбыў караблём у Антвэрпэн, дзе яго спаткалі ягоны дзядзька, былы прэзыдэнт парляманту, з дачкою, а таксама сябра Ж., як прадстаўнік беларускае студэнцкае групы ў Лювэне. Зь якою нецерплівасьцяй чакалі мы прыезду дарагога айца, думаю, зараз зразумеюць таксама й нашыя суродзічы ў ЗША й Канадзе, якія мелі нагоду спаткацца зь ім, пагутарыць ці хоць-бы чуць ягоныя прамовы поўныя шчырасьці й беларускага патрыятызму.

Ня гледзя на тое, што для некаторых студэнтаў настаў ужо гарачы час — набліжаюцца экзамены — ніхто не сьпяшыў да кніжак. Зь вялікаю цікавасьцяй слухалі ўражаньні, якімі дзяліўся а. Робэрт із свайго падарожжа й прабываньня ў Амэрыцы. Тымбольш цікава было слухаць, паколькі а. Робэрт расказваў аб'ектыўна аб жыцьці й дзейнасьці Беларусаў і беларускіх арганізацыях у Амэрыцы, ня робячы розьніцы паміж «крывічамі» й «зарубежнікамі», праваслаўнымі й каталікамі — гэтыя «розьніцы» для яго ня йснуюць, аб чым маглі пераканацца нашыя суродзічы ў ЗША й Канадзе.

Расказваючы аб сваім падарожжы, а. Робэрт выказаў вялікае задаваленьне, што меў нагоду спаткацца зь беларускімі грамадзкімі працаўнікамі, пазнаёміцца з працай моладзі, а таксама пазнаёміцца з быўшымі настаўнікамі й Дырэктарам Гімназіі імя Я. Купалы ў Нямеччыне, 80% выпускнікоў каторае кончылі або канчаюць Лювэнскі ўнівэрсытэт.

У нядзелю 8-га сакавіка на просьбу а. Робэрта сабраліся лювэнцы, якія працуюць ужо, зразумела й студэнты, у Беларускім Студэнцкім Доме ў Лювэне. Тут яшчэ раз а. Робэрт падзяліўся сваімі ўражаньнямі й вынікамі падарожжа ў ЗША й Канадзе. Агульна кажучы а. Робэрт вынес надзвычай добрае ўражаньне аб беларускай эміграцыі ў Амэрыцы. А скажу пад сакрэтам, што ён ня быў вялікім ахвотнікам паездкі ў Амэрыку й мне таксама прыходзілася доўга яго ўгаварваць зрабіць гэты крок. Што а. Робэрт здэцыдаваўся паехаць у Амэрыку — гэта перадусім заслуга нашых лювэнцаў у Амэрыцы, якія не давалі яму супакою сваімі лістамі-запросінамі.

А. Робэрт быў вельмі расчулены беларускай шчырасьцяй й гасьціннасьцяй. Калі мяне, — казаў ён, — так цёпла й шчыра прыймалі нашыя лювэнцы — зразумела — мы старыя сябры, але людзі, некаторых чуў толькі прозьвішчы, спатыкалі мяне й запрашалі да сябе як старыя ад дзесяцігодзьдзяў сябры. У мяне незнаёмых ня было. У кажнай сям'і, дзе я толькі ня быў, я быў у сябе.

Гаворачы аб беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, а. Робэрт падчыркнуў, што ў якой мове ён не гаварыў — заўсёды перакладалі на беларускую мову. Ён вельмі добра разумее значаньне мовы, асабліва для эміграцыі, таксама як і бацька нашага адраджэньня Ф. Багушэвіч, калі гаварыў: «Не пакідайце мовы роднае, каб ня ўмерлі». Аднак, — сказаў а. Робэрт, ёсьць таксама выпадкі, што беларускім дзецям ужо цяжка гутарыць пабеларуску, дзеля гэтага, хоць гэта было маё першае падарожжа, але не апошняе — мы павінны зрабіць усё, каб гэтыя людзі ня былі страчаныя для Беларусаў як для нацыі.

І апошняе, а. Робэрт задаволены, што падарожжа аплацілася — ёсьць ужо кандыдаты на Лювэнскі ўнівэрсытэт і, такім чынам, будзе й надалей існаваць беларуская студэнцкая група ў Лювэне.

Паводля словаў а. Робэрта лювэнцы ў Амэрыцы прыймаюць актыўны ўдзел у грамадзкай працы. А ў сваіх успамінах з Амэрыкі др. Ст. Станкевіч назваў лювэнцаў, за выняткам аднаго, «грамадзка-бязьдзейным элемэнтам». Ясна, адзін з дактароў тут памыліўся (а. Робэрт таксама доктар). Аднак гэта пытаньне да дыскусіі. Добра было-б, каб лювэнцы ў Амэрыцы даказалі (працаю), што **др. Ст. Станкевіч** памыляецца.

Айцец Робэрт выказаў надзею, што калі не пад канец гэтага году, дык напачатку наступнага, яшчэ раз наведае Амэрыку.

На заканчэньне трэба выразіць жаль, што а. Робэрт на працягу дзесяці год, з часу як заняўся беларускімі студэнтамі, ня меў ні аднаго вольнага дня на адпачынак. Ня гледзячы на тое, што здароўе мае моцна падарванае, нікому ня скардзіцца. Замест таго, каб зрабіць сабе хоць тыдзень адпачынку, ён мусіць езьдзіць уздоўж і ўпоперак Амэрыкі ў пошуках Беларусаў-кандыдатаў на Лювэнскі ўнівэрсытэт. Спадзяёмся, што нашыя дзеячы ў ЗША й Канадзе праявяць ініцыятыву й пастараюцца, каб Беларускі Студэнцкі Дом не стаяў пусты. Лішнім было-б даводзіць аб важнасьці беларускае студэнцкае групы ў Лювэне.

Дык чакаем на кандыдатаў на наступны акадэмічны год у Лювэне.

**Ул. Сьцяблевіч**

## *Аб прыказках і прымаўках*

# Чаму мы так гаворым?

Адной з характэрных асаблівасьцяў беларускае мовы, як і іншых моваў, зьяўляецца яе багаты моўна-лексычны склад зь яго ўстойлівымі фразэалягічнымі выразамі й словазлучэньнямі, якія надаюць мове свае, уласьцівыя толькі ёй рысы й складаюць яе арганічную частку.

Да ліку апошніх і адносяцца прыказкі й прымаўкі.

Узьнікнуўшы ў глыбокай старажытнасьці, многія зь іх прайшлі вялікі шлях, перажылі поўныя зьмены й страцілі свой ранейшы сэнс. Зразумець іх цяпер бяз тлумачэньня цяжка. Навет такая простая й зразумелая на першы пагляд прымаўка, як «Ні кала, ні двара», або «Ні вала, ні кала», што значыць ня мець нічога, застацца бязь нічога, патрабуе свайго ўдакладненьня. Як відаць із зборніка Ф. Янкоўскага «Беларускія народныя прыказкі й прымаўкі», гэты выраз характарызуе становішча безьзямельнага селяніна, парабка. Слова-ж «кол» у гэтай прымаўцы раней мела іншае значэньне, чымся цяпер: яно абазначала меру даўжыні пры вымярэньні ворыўнай зямлі, сенажаці.

На Магілеўшчыне ў гаворцы бытуе выраз «Плесьці турусы» ці «Малоць турусы», што азначае гаварыць абы-што. У другіх выпадках можна сустрэць крыху іншы выраз — «Гнаць турусы на калёсах», але значэньне, сэнс ува ўсіх выпадках адзін і той-жа — балбатаць, гаварыць пустое. Калі словы «плесьці», «малоць», «гнаць» выступаюць сынонімамі да дзеяслова «гаварыць», то што-ж тады азначае назоўнік «турусы»? Аказваецца, «турусы» — у мінулым назва спэцыяльнага прыстасаваньня для асады цьвярдыняў — вежа на колах... Расказы пра іх лічыліся неверагоднымі.

Вядомы беларускі этнаграф дае тлумачэньне да прыказкі «Выскачыў, як Піліп з Канапель», што значыць зрабіць нечаканае, не да месца. Першапачатковае значэньне яе было канкрэтным. І Каноплі тут не сельскагаспадарская культура, а назва засьценку былога Ігуменскага павету (цяпер Чэрвень). Дык вось нейкі шляхціц Піліп з засьценку Каноплі аднойчы на сойме нечакана выказаўся не да месца, недарэчна, за што й быў асьмеяны. Адсюль і пайшла прыказка «Выскачыў, як Піліп з Канапель».

Трэба адзначыць, што ў многіх беларускіх прыказках і прымаўках заключаны канкрэтныя паняцьці, падзеі, факты, асобныя ўчынкі канкрэтных людзей, часта навет называюцца іх імёны, прозьвішчы, паказана месца й час дзеяньня. Напрыклад: «Вінавата хата, што пусьціла Ігната», «Атаўка — сену прыбаўка, ды ня ўмеў яе скасіць Саўка»; «Як нарыла Луця, то не паесьць і цюця»; «Багаты Цімошка: сабака ды кошка»; «Удалося, як той Салосе»; «Нашаму Харытону нідзе няма прытону»; «От дык Дзяніс: прадае сабаку, а кажа, што ліс» і інш.

Якія-ж умовы жыцьця спадарожнічалі беларускім Ігнатам, Саўкам, Луцям, Цімошкам, Салохам, Харытонам, Дзянісам, каб іх імёны вечна жылі ў памяці народу, а ўчынкі сталі зьместам трапных выслоўяў? Адказ на гэтае пытаньне трэба шукаць не ў аналях гісторыі. Прыказкі й прымаўкі — вынік шматвяковае дзейнасьці чалавека, яны ўвасабляюць сацыяльнае дасьветчаньне людзей, назіраньні й абагульненьні шматграннай чалавечай практыкі: «Бойся вала сьпераду, а каня ззаду», «Ад дрэннага семя не чакай добрага племя». Разам з тым, кажная прыказка — гэта дасканалы мастацкі твор з вобразнымі параўнаньнямі, эпітэтамі, мэтафарамі. Відаць, ня чым іншым, як імкненьнем народу падабраць гучную рыфму, і нельга растлумачыць наяўнасьць многіх імён у беларускіх прыказках і прымаўках: «У нашай Кацярыны, штогод хрэсьбіны й радзіны», «Які Хомка, такая й жонка», «Хіцер Зьміцер, ды і Саўка ня дурны», «Наша Сора то шые, то пора», «У нашай Парыскі ні гневу, ні ласкі», «У нашага Хвядота ня клеіцца работа», «Вер Яўменю, а грошы кладзі ў кішэню» і г. д.

На думку некаторых вучоных, асобныя агульнаславянскія прыказкі й прымаўкі праніклі ў народную мову з грэцкае мовы ў выніку культурных сувязяў, якія суправаджаліся ўплывам духоўнай літаратуры й мастацтва. Вось некалькі грэка-славянскіх параляляў: «Лепш з разумным страта, чым з дурным выгода» — «Лепш з разумным страціць, чым з дурнем знайсьці» (бо з дурнем хоць і знойдзеш — не падзеліш!); «І певень дужы на сваёй гнойнай кучы» — «Кажны певень на сваім сьметніку гаспадар»; «Так цябе любіць, як сабака цыбулю ці старая круты пад'ём» — «Любіць, як сабака палку» і г. д.

Такіх адэкватных параляляў можна было-б прывесьці шмат. Аднак сьцьвярджаць, што ўсе падобныя прыказкі запазычаны славянскімі народамі, значыць глыбока памыляцца. Вялікае падабенства некаторых зь іх як па форме, так і па зьместу можа быць растлумачана, з аднаго боку, простым супадзеньнем жыцьцёвых сытуацыяў чалавека, якія абумовілі ўзьнікненьне аднолькавых зусім самастойных вывадаў. З другога боку, тыя зь нямногіх запазычаных прыказак, перанесеныя на глебу народную, апрацоўваліся ў духу народных твораў, адпаведна граматычнаму складу мовы, рабіліся больш сьціслымі, лякінічнымі, запраўды роднымі, запраўды народнымі.

**І. Цішчанка**

(«Беларусь», № 2, 1959)

# Зь беларускага жыцьця

### РЭФЭРАТЫ Ў БІНіМ

У сыботу 14-га лютага ў рамах сталых рэфэратаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва адбыўся чародны рэфэрат з галіны гісторыі беларускае вайсковасьці, прачытаны ген. Ф. Кушалем на тэму: «Усходнія межы Вялікага Княства Літоўскага ў 14-17 стагодзьдзях». Згаданы рэфэрат быў як-бы падсумаваньнем цэлага шэрагу прачытаных дакладчыкам рэфэратаў на тэму войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай. Карыстаючы з адумыслова зробленага шкіцу, дакладчык зазначыў прабег усіх межаў паміж Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім, адна зь якіх, мяжа Вітаўта, прайходзіла каля самага Мажайску, вельмі блізка Масквы.

Пасьля дакладу адбылася дыскусія на тэму дакладу і вымена думак.

☆

28-га лютага Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ладзіў цікавы рэфэрат, прысьвечаны тэме, гэтым разам з эканомікі Беларусі, а гэта — «Лясная палітыка на Беларусі». Сьціплы загаловак не аддаваў навет часткава зьместу дакладу. Сп. інж. Мікола Гарошка, які чытаў даклад, сабраў вельмі цікавыя й мала ведамыя шырэйшаму беларускаму грамадзтву дадзеныя аб стане беларускіх лясоў ужо за часоў Вялікага Княства Літоўскага, аб адумысловых законах, якія рэгулявалі лясную гаспадарку Княства, што сьветчыць аб высокай культуры тагачаснага беларускага гаспадарства, аб каштоўных асаблівасьцях беларускага клімату й глебы і аб тэй, запраўды барбарскай, хіжацкай палітыцы, якую праводзілі на працягу апошніх стагодзьдзяў акупанты Беларусі ў дачыненьні да беларускіх прыродных багацьцяў, у першую чаргу — нашых лясоў ды пушчаў.

(Бюлетэнь Галоўнае Ўправы БАЗА)

### КАРНАВАЛЬНЫ ВЕЧАР СБАМ У САЎТ РЫВЭР, Н, ДЖ.

У суботу 7. III. 59 г. Галоўная Ўправа Саюзу Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ладзіла Беларускі Карнавальны Вечар-Танцы ў Саўт Рывэры. Грала папулярная аркестра М. Гірняка, які карыстаецца вялікай пашанаю сярод Украінцаў, Беларусаў і Амэрыканцаў. Каралевай Вечару была выбрана прыгожая сяброўка Ньюёрскага аддзелу моладзі — Вера Бартуль. Быў багаты буфэт зь беларускімі закускамі й напіткамі, ды лятарэя, даход зь якой прызначаны на патрэбы арганізацыі моладзі.

Шчасьліўцам гэтага вечару быў сябра А. Нясьцяровіч, зь Нью Ёрку, бо выйграў упечаную качку й бутэльку напіткаў. Сваім выйграшам ён дзяліўся із сваімі сяброўкамі й сябрамі. Акрамя гэтага было шмат неспадзевак і прыемных сустрэчаў, бо на гэты раз запраўды спаткалася амаль уся беларуская моладзь з бліжэйшых беларускіх асяродкаў: Саўт Рывэру, Нью Ёрку, Пасэйку, Пэтэрсону, Філядэльфіі й ін. Сярод прысутных было шмат такіх, якія ўпяршыню адведалі беларускі асяродак Саўт Рывэр ды разам з гэтым цешыліся, што мелі нагоду сустрэцца із сваімі суродзічамі-землякамі.

Крыху пазьней, Карнавальны Вечар дапоўнілі сваёй прысутнасьцяй прыехаўшыя сябры й сяброўкі з суседняга Нью Брансвіку, дзе толькі закончыўся быў Беларускі Вечар-Бліны, ладжаны Гал. Управай Жаночай Сэкцыі Аддзелу БАЗА — Нью Брансвік-С.Рывэр.

Нельга прамінуць яшчэ й гэтай падзеі, што якраз у гэты вечар заручыліся Ул. Бычкоўскі з Зосяй Касьцюк — сяброўкай аддзелу СБАМ Саўт Рывэр і адначасна «Каралевай Спорту» гэтага-ж аддзелу. Ул. Бычкоўскі зьяўляецца актыўным сябрам Гал. Управы СБАМ ды, акрамя гэтага, мае добрыя музыкальныя здольнасьці. Спадзяёмся, што ў хуткім часе пачуем ягоную музыку праз беларускую радыяперадачу станцыі WPOW зь Нью Ёрку, якую вядзе М. Казьлякоўскі.

**А. К.**

Янка Купала

## *Хрыстос Васкрос*

Хрыстос васкрос!.. Усюды  
радасьць,  
Усё глядзіць сьмялей, сьвятлей;  
Вялікі Мучальнік, здаецца,  
Абняў усіх ласкаю сваей.

Хрыстос васкрос!.. Неугамонна  
Плыве па нівах, пушчах клік,  
Плыве адна сьвятая думка  
З канца ў канец, як сьвет вялік.

Хрыстос васкрос! — пяе сялянін  
З сваёю ўбогаю радней,  
Забыўшы песьні аб прадвесьні,  
Забыўшы ўсё усёй душой.

Хрыстос васкрос! — пяе сіротка,  
Слуга таптаная людзьмі!  
Пяе ў чужыне падарожны,  
Забыты бліжнімі сваймі.

Хрыстос васкрос! — пяюць і тыя,  
Хрыста згубіўшыя сыны,  
Што ў ціхамоўку ладзяць сеткі  
Для нашай беднай стараны.

Хрыстос васкрос!.. К Табе, о,  
Божа,  
І я ў дзень гэты думку шлю:  
Хай Беларусь, мая старонка,  
Ускрэсьне к лепшаму жыцьцю!

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

### ПОШУКІ

**Зоя Саньнікава** шукае сваіх добрых знаёмых **Васіля Русака** й ягоную жонку Кацярыну, якія ў 1946—47 гадох жылі ў ДП-лягеры Шляйсгайм ля Мюнхэну.

Весткі просім слаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

☆

Ветліва прашу ўсіх суродзічаў, хто знае што-колечы аб лёсе Паўлюка Бяляева з Грускова спад Снова, былога падахвіцэра 13 Б. баталёну, паведаміць на адрас:  
V. Zdan  
125, Ave. Clermont  
Montreal, 14, P. A., Canada.

**УВАГА! УВАГА!**

**Выйшла ўжо з друку новая кніга Выдавецтва «Бацькаўшчына»**

**Проф. Я. Станкевіча**

## Зь гісторыі Беларусі

**Кніга зьмяшчае шэсьць наступных разьдзелаў аб мінуласьці нашае Бацькаўшчыны:**

**1. Беларускія гаспадары (вялікія князі), што не хацелі гаспадарстваваць у чужых;**

**2. Вялікі князь Алег Северскі;**

**3. Імсьціслаў Харобры і Імсьціслаў Удалы;**

**4. Вонкавая гісторыя беларускага права ў розных порах гісторыі Беларусі;**

**5. Беларускае нацыянальнае адраджэньне (1902—1915);**

**6. Гісторыя Беларусі і расейская чорная сотня.**

**Кніжка мае 112 бачынаў друку й каштуе: у Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі й Канадзе — 95 цэнтаў; у Вялікабрытаніі, Аўстраліі й Новай Зэляндыі — раўнавартасьць 70 цэнтаў; у Эўропе — з выняткам Вялікабрытаніі — і Паўднёвай Амэрыцы — раўнавартасьць 60 цэнтаў.**

**Купляць і выпісваць можна або беспасярэдна з Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Мюнхэне або ад Прадстаўніцтваў «Бацькаўшчыны» ў розных краінах расьсяленьня Беларусаў.**

**За кніжку «Зь гісторыі Беларусі» трэба разьлічвацца зь ейным аўтарам Я. Станкевічам, пасылаючы яму грошы на адрыс Крывіцкага (Беларускага) Навуковага Таварыства, гэтак:**

**J. Stankevich, c/o Fr. Skoryna Society, 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, N.Y. U.S.A.**

### УВАГА, ПАДПІШЧЫКІ Ў ЗША

**Падпішчыкі, якія атрымоўваюць, або якія жадаюць атрымоўваць газэту «Б-ну» лётніцкай поштай у 1959 г. павінны прыслаць гадавую падпіску ў суме 16 даляраў на ніжэй паданы адрыс нашага прадстаўніка:**

Mr. B. Danilovich  
303. Howard Str.  
New Brunswick, N. J. U. S. A.

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

### УВАГА!

**Праграмы Беларускае рэдакцыі радыя «Вызваленьне» перадаюцца на Бацькаўшчыну ў наступных гадзінах менскага часу:**

**Ад 1-ае да 3-яе гадзіны ночы — на хвалях 31 і 41 мэтраў**  
**ад 11-ае да 13-ае гадзіны — на хвалях 17 і 19 мэтраў**  
**і ад 22-ое да 23-яе гадзіны — на хвалях 25 і 31 мэтраў**

**Беларуская Рэдакцыя Р. В.**

✶

**Праграмы Беларускае рэдакцыі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя перадаюцца ад гадз. 18.30 да 18.45 сярэдняэўрапэйскага часу (20.30 — 20.45 — менскага часу) і ад гадз. 20.45 да 21.00 (22.45 — 23.00) на хвалях 32,05 м. (9363 kc/s) і 42,22 м. (7105 kc/s).**

**Беларуская Рэдакцыя Г. Н. Р.**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**  
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.  
**АРГЕНТЫНА:**  
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.  
**АЎСТРАЛІЯ:**  
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.  
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.  
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.  
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.  
**БРАЗЫЛІЯ:**  
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.  
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**  
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.  
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.  
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.  
**КАНАДА:**  
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.  
**ФРАНЦЫЯ:**  
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.  
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**